УДК 821.161.3-1
ББК 84(4 Беи)
А41

**Аксак, В.**
А41 Кава ў арліным гняздзе : кніга паэзіі / Валянціна Аксак — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 100 с.: іл.
ISBN 978-985-7227-14-3.

Гэтая кніга — амаль поўнае зліццё аўтарскага голасу з наўкольнымі зыкамі: шаргаценнем лістоты, яблыкападам, рэхам здзічэлых садоў. Але найперш — з птушынымі спевамі. І пераўвасабленнем ва ўлюбёных арлоў, шлюбныя гульні якіх выкрасаюць у небе абрысы васьмёрак. Восем — лічба, за якою бясконцасць. «Кава ў арліным гняздзе» — восьмая кніга Валянціны Аксак.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4 Беи)**

**ISBN 978-985-7227-14-3**

## груган і арліца

Над прынёманскім поплавам
неба сінейшае ў жніўні,
і кружляць над вярбінамі
ўсьцяж крутагорнае поймы
тут спрадвеку
мне ўсьцешна.
От якраз
мо такою параю,
калі паляцелі
малыя сыны
дарослую долю шукаць,
дзе налета ім зладзіць
з увішнымі нейчымі дочкамі
свае непадступныя гнёзды.
Так і сёньня
лунала бяз пэўнае мэты.
Проста хочацца
так вось кунежыцца
з валошкавым сьвятлаценем
у крылах
мо ў астатнія дні
перад шэраю,
сшэрхлаю,
шызаю восеньню.

Раптам грук над плячыма.
Яшчэ і яшчэ.
І пранізьлівы боль.
І цурок цеплыні
наўзбоч шыі.
Ах, гэта ты,
груган ненажэрны!
Табе здохлага мала?
Ты ўцяльмешыў сабе,
што авалодаеш нават
арліцай паднебнай.
Ну трымайся.
Зараз
мы ўздымемся ў неба.
Ну што?
Можа хочаш вышэй
на якія дзьве мілі?
То атрымай
тры і чатыры, і пяць —
мне ня цяжка
дзеля такога
самалюбнага вершніка.
Аёй,
ты гэта што?
Паветра замала?
Ты задыхаесься?
І ўжо кляваць
ня можаш мяне?
Ну, мне шкада.
Даруй.
Вялікія
мусяць усё ж
упэўнена лётаць
на галавакружнай
вышыні.

## вялікі арлец цікуе за мной



Ну нарэшце
я ведаю,
як выглядае той,
чый погляд адчула
яшчэ да
нараджэньня сусьвету.
Не сьвідруе вачыма,
спакойна глядзіць,
раскашуючы ў сіле сваёй
і выгоднай пазыцыі,

зь якое нікому ня бачны,
затое яму
наўкольле адкрытае
на ўвесь небакрай.
Схамянуся, бывала,
як стрэлам працятая,
але й небясьпекі нідзе
ані каліўца
не запрыкмечу,
то й віхуруся далей
у мроях,
нібы ахінутае
звышняю мілажальлю
неразумнае немаўля.
Але вось цяпер
так раптоўна
ўзьняла свае вочы
да макаўкі
заваконнай ігрушы,
што ён
не пасьпеў
перакінуцца ў тоўсты
каравісты сук.
І мы
нарэшце глядзім
адзін на аднога
ў рыжа-бурых,
падсьвечаных вохрыстым сонцам,
вечаровых мярэжах —
вялікі ўладар-паляўнічы
і зьнячэўленае птушанё,
якое высьлізгвае зноўку
зь ягоных
кшталцоных вякамі
й няхібных ніколі
паветраных ловаў.

## лунaлы арол

Бацька сказаў:
«Нацешысься».
Ён ведаў пра гэта,
узяўшы сабе
пасьля шлюбу
маміна прозьвішча.
Праз сорак гадоў
блуканьняў па пустках
вярнула яму ягонае —
хай сабе толькі
над тэкстамі,
якія камусьці
ўяўляюцца вершамі.
Але ў пашпарце
тое напісана,
якім па-ранейшаму
захапляюся.
Вось жа
й дарогу да хаткі
выбірала па птушках
над ёю.
Луналы арол
над шашою —
нідзе больш
такога няма,
акром
гэтага шляху
да кавы
ў арлiным гнязьдзе.

**малая арліца кідаецца наперарэз**

І раптам —
дзюб у шкло —
і шыбачка наросхрыст.
Двухтонны самаход
спынены
танюткай дзюбай
кіляграмовай птушкі.
Вось гэта жарсьць!
Вось гэта перамога!
Але ў імя чаго?
Чаму абрала
маю замурзаную
і шмат разоў залапленую
дапатопную амаль
«Таёту»?
Яна ня скажа.
Яна ўжо паляцела
па больш пільных справах,
чым нейчая
зашкандыбаная машына.
У тым,
што гэта зьдзейсьніла
малая
і рашучая арліца,
я не сумняюся.
Такую бессэнсоўнасьць
учыніць ня мог
яены муж
малы арлец —
імя не дазваляе.
Ягонае імя —
нішто
дзеля яе
звышсутнаснай
істоты.



## арлан-белахвост

Кліа-кліа-клійаў,
кірля ўжо на крылах,
кірля ўжо на крылах,
кірля ўжо на крылах.
Каву не зварыла,
каву не зварыла,
каву не зварыла.
Сонца не сустрэла,
сонца не сустрэла,
сонца не сустрэла.
Кліа-кліа-клійаў,
оя-ёя-ёя,
гэта ж бо
ня кірля,
голасам падобна,
а ляціць то хто там.
На паўнеба крылы,
кліа-кліа-клійаў.

Вох.

Зьнепрытомлена.
Зьнерухомлена.
Я.
Птушка зьнячэўлена.
Не хацела зьнянацку.
Проста тут пралятала.
Спадабаўся і поплаў,
і пойма ракі.
Задумлялася нат,
каб кубло
тут
спавіць.
Але ня будзе.
Людзі тут
неяк вельмі
ўспрымаюць уражліва
размах крылаў
і белае пер’е
ў хвасьце
не шарачковай апраткі.

Кліа-кліа-клійаў —
пралятае міма
велічная птаха.

У хмызах цікуе
за наўкольным рухам
спраўная няўдаха.

## чорны шуляк

Так хочацца
першым,
найвышшым
і найхутчэйшым.
І часам здараецца
апярэдзіць
нат гругана.
Вось толькі
арлан,
ён заўсёды
над намі,
і ніколі,
ніколі
ня бачыў яго
ля сонных лунёў
пад ракітамі
спакойнае Нешчарды
і ля застылых
малых шчупачкоў
у чаратох
хуткаплыннай Дзьвіны.

## фігляр

Калі ты сустрэўся
за ўзгоркамі,
дзе гнёзды
нашых бацькоў,
я ня надта цябе
ўпадабала.
Пестунок.
Адзіны ў сям’і.
Што можна чакаць
ад такога?
Але ты мне даводзіў,
што маеш падставы
на запачаткоўца
бясконцай сям’і.
І ў доказ
якіх ужо толькі
ні выробляў выкрунтасаў.
Узносіўся ўверх
і строма куляўся.
Васьмёркамі гойсаў
па-над прынёманскім поплавам.
Сьпіраль жа жывая
адвабіла
ўсіх канкурэнтаў.
Ты мой —
назаўжды.
Такая ў арлоў
завядзёнка,
калі не ўдаеш,
што ты —
не фігляр.

## Эдэм

Уцёкі ад дзікае сьлівы
ў завінены рай
сталіся бегам
па трэнажорнай дарожцы.
Дрот ад датчыка пульсу
спутаў ногі,
стоп-кадрам завіс
заваконны пэйзаж,
прытупілася яркасьць малюнка,
і паветра загусла,
як застылая манная каша.
Трэба рэзка рвануць
пупавіну
без аглядкі на места,
каб ня стаць
тут
слупом саляным.
Пасьля цёплага ходніка
ў казцы,
у назове якой
зашыфрована слова
«малая»,
холад сшэрхлай гразі
на няходжанай сьцежцы
па зарослым дзядоўнікам
невядомым раней,
так рэальным цяпер
краявідзе
асьцюжае падэшвы.
Стомай строма
ўзьвіваецца думка,
што папар на гары,
на якую мне трэба
ўзабрацца,



чакаў цэлы век
на мяне
ў спадзяваньні
назвацца
Эдэмам.

## схованка

Між эратычных ружовых,
сарамлівых агністых,
настырных памаранчовых,
жоўтых гульлівых
ды ўсялякіх іншых
радасных разнаколерных
саджу
цнатлівыя белыя.
Бо падумала тут,
а раптам і мне
давядзецца ўцякаць
зь немаўлём
у прыполе.
З чаго ж тады
зраблю яму
схованку,
якая палыхне
такім зыркім сьвятлом
у вочы
цікаўнаму стражніку,
што той
аж асьлепне.
А кажаце —
гэта проста
лілеі.

## спрэчка з Сызыфам

Нікнуць,
падаюць долу,
мруць.
На гэтым месцы
ім чагосьці бракуе,
а чаго —
не магу даўмецца.
І яны маўчаць,
сохнучы пад залевай.
А я зноў еду
ў свой стары сад,
капаю любімыя флянсы
і вязу іх саджаць
у новыя кветнікі,
у якіх спадзяюся пабачыць
драбнюткія зорачкі флёксаў,
важкія гронкі гартэнзіяў,
залатыя галоўкі бузульнікаў
россып праменьчыкаў карэопсісаў.
Дарагія мае малечы!
Умольваю вас —
аспрэчце маю
Сызыфаву працу.

## брамку замураваць

Раптоўна ўчора надвячоркам
намысьліла я
бразнуць клямкаю варотцаў
ды падзівіцца,
што дзеецца
за межамі падворка.
Адразу ж зьлева згледзела
рахманага суседа,
які,
як і надоечы,
сядзіць
на спарахнелай лаўцы
пры спадчыннай хаціне
ды забаўляе
валацужных цуцыкаў
захмеленымі досьціпамі.

А справа,
як і сто гадоў таму,
стаіць убраная ў ядвабы
пані,
заслоньваецца
капялюшыкам ад сонца
ды раз-пораз кідае пагляд
у дальні канец вуліцы,
спадзеючыся ў хмарах пылу,
узьнятага мурзатым трактарыстам,
пазнаць валадара
яе душы і цела.
Наўпрост жа
за калдобістай дарогай
раскошна разрастаецца бур’ян,
у гушчары ягоным
не адшукаць пазнак
анічыйго больш гаспадараньня.
Навошта ціснула на клямку?
Куды хацела выйсьці?
Што пабачыць?
Так змарнаваць бяздумна
чвэрць амаль гадзіны,
каб зразумець зноў тое,
што ведала даўно.
Брамку мушу
заўтра
усё ж
замураваць.

# сёньня

Змайстрыць
гняздо,
запарыць
кавы,
згойсаць
да бліжэйшага лесу,
зьмеркнуцца
ў захадзе,
зьдзейсьніцца
ў бліскавіцы.
Замала?
Здолейце
штодня.

## прыступкі да яблыні Евы

У нейкім нарвэскім кіно
пра аматарак кветак
было пра старую кабету,
якая штодня
апаноўвае дбаць
пра сто ружаў
у садзе нагорным.
Прыступкі ў яе
да ружоўнікаў
там уладкованы
для звыш загартованых пані,
бо да кожнага кусьціка
трэба мо мэтар які
ўверх уздымацца.
Удзячныя кветкі штодня
ля самай
высокае клюмбы
выстаўляюць ёй
келіх бургундзкага.
Ну чым не матыў,
каб моцна любіць
і іншых
на гэтым шляху.
А Ева пры чым?
Яна —
толькі прытча.
Тым болей,
што яблыка
і не было.

## студня

Уздыбілася кроў
забітых,
па мёртвых жылах
пацякла з магілаў
наверх на горку,
а з макаўкі
абрынулася ўніз,
у маю студню.
І захлынулася
вада жывая.
І суша высьпеліла
плод няўродны.
Капаць
калодзеж новы
ці гэты ачышчаць —
аднолькава
фатальная ўжо
справа.

## шпачкі



Шпачкі
на галінцы перад домікам
адзін на аднога ўскочаць —
хвіліны й не праміне,
а яны ўжо на доле
зьбіраюць сьцяблінкі ў гнязьдзечка,
а потым ізноў —
дзетародная хваля яднаньня
і хвіліна натхнёнага чыну
дзеля тых пісклянят,
каго ў людзях
немаўлятамі называюць.
Як клічуць шпачкі
сваіх птушанят,
я ня ведаю,
але ясна адно —
пасьля свайго вывадка
яны ўжо
ў гэтае лета
новых песьняў
не пачынаюць.

## наросхрыст

Выцінанкі
з папяровых торбаў,
гафт
на самаробным кужалі,
вышыўка
на паркалі,
цюль узорысты крамны,
шторы ядвабныя —
і гэта ня ўсё,
што прыдумалі людзі,
каб занавесіць
неба,
сонца
і зоры.
Было падобнае вычварэньне
й на маіх вокнах.
Зьняла,
абярэмам наводдаль зьнясла.
І цяпер
вочы майго жытла
не захінутыя ад сусьвету.
Жыву
наросхрыст.



Неба
такое цяжкое,
што бярозка
аж скасабочылася,
падпіраючы яго,
каб ня рухнула
і не нарабіла грукату,
покуль яблыкі
наліўныя
сьпяць
у салодкай зьнямозе,
тут,
ля маіх хрызантэмаў
засмужаных
і ля ног маіх
струджаных.



**перадзім’е**

На бярозе лістота
рудзенькая
й радзенькая,
як валасы
на старой галаве,
фарбаваныя хной.



**спакой**

Гляджу на голыя
галіны дрэваў
і разумею,
што ўжо ня мае
ніякага значэньня,
дачакаюся лістоты,
ці не.

## покрыва



Кагосьці —
старым лісьцем,
некага —
маладым сьнегам,
а мяне
хай бы —
сьпелымі пялёсткамі.

## будзе

Гэта будзе так,
як было,
калі ўпершыню каштавала
завінены хлеб прычасьця.
Гэта будзе так,
як было,
калі неяк раптоўна
той смак апынуўся
на вуснах
вясёлага Янака.
Гэта будзе так,
як было,
калі нечакана
зь бяседнага келіха
распырскаўся
воцат.
Гэта будзе так,
як і ёсьць,
калі
адна толькі згадка
пра Першы
Ягоны Цуд
хмеліць
збалелае сэрца.
Гэта будзе так,
як бывае
толькі аднойчы,
калі нічога
зь мінулага
ўжо
ня будзе.

Вось яна,
блізенька так
падышла да дзьвярэй,
але праз парог не ступіла,
маўклівым кіўком галавы
паклікала да суседзяў,
і я,
ў чым была,
а дакладней —
ні ў чым,
пакорна пайшла,
чым вельмі зьдзівіла
харошую маладуху.
Але гэта ня ўсё.
Далей запрашэньне было
на гарышча.
Так бы сёньня
я ўжо нічога
й не напісала,
калі б не сусед,
які мяне выбавіў
зь цямрэчы
і халадэчы,
дзе загадала стаяць
бязмоўная павадырка.
Сама ж адвінулася недзе
ў тым часе.
Думаю,
не надоўга.

**мары пра вечнасьць**

Кальварыя.
Камень.
І крыху кветак.
Жывых,
калі ласка.





**углыб**

Гонта.
Ганак.
Грунт.

**ушыр**

Напрасткі.
Напралом.
Наросхрыст.
Назло
птушанятку
ўсярэдзіне.

## уздоўж

Клышаногія.
Камлюкаватыя.
Каржакаватыя.
На кожным кроку.
Іду дадому.

## уперад

Пад восень
разьлюбляю
ўсё тое,
што было
мілае
ўвесну.
Да чаго прыхінецца
душа
на пачатку зімы?
Думаю —
да краявіду,
які прымроіла
некалі
ў красавіку.

## назад

Пасталела нарэшце —
ужо не азіраюся.
Там нічога няма.
Нават жменькі попелу
са спаленых дзёньнікаў.
Але палюбіла чытаць
чужыя ўспаміны.
У іх так прыгожа
ідзецца пра тое,
чаго не было.
І я гэта помню.
Даравацъ —
ня значыць забыць.
Уважліва чытаю
між радкоў.

## увысь

Імкнуся туды,
адкуль будзе
добра відаць,
што ты
й безь мяне
цудоўна спраўляесься,
і нават бывае,
чуесься шчасна
ў самоце.
Без маіх
невылечных
грахоў.

Божа,
якое гэта шчасьце —
сядзець пад зорамі
і ні пра што
ня думаць!
Зрэшты,
мой Божа,
я ўсё ж думаю —
пра Цябе
і зоры.

**воддаль**

## побач

Побач
з прыгожаю жанчынай
хочацца
яшчэ больш згорбіцца,
зашыцца ў норку
і ніколі
адтуль
не вылазіць.



**ніцма**

Захутанаю
ў сынавыя апранахі
між дзьвюх бярэзінаў
мне шчасьце легчы
ніцма.

Колькі гляджу на неба,
столькі знаходжу
воблакаў
з абліччам бацькі
ў труне.



**аблічча ў небе**



**мінулае мінула**

Мінулае —
гэта бацькі.
Яго закапалі
ў іхніх магілах.
Цяпер ў мяне —
толькі
зараз.

Маліліся сёньня
мы
ў нашай
сьветлай царкве
за ўсіх
забітых
бязбожнаю ўладай,
сьпявалі ім
вечную памяць.
Анёлы
нясуць нашу песьню
празь цёмнае неба
да іх
спакутованых
душаў.

**цёмнае неба**

## ліст

Мілая мама,
дзень добры!
Я ўжо дома
й адразу пішу,
што жывыя мы ўсе
і здаровыя,
і ў хаце парадак.
Даехала я да заходу.
Мяло ўсю дарогу,
пхалася неяк навобмацак,
трохі нат буксавала.
Надвор’е было,
як дванаццаць гадоў таму,
калі пакідалі цябе
каля дзеда і бабы
ў бярэзьнічку.
Але гэта ня важна,
Галоўнае —
пераведала вас,
завезла любімых тваіх
мядовых пірожных.
От,
забыла зусім расказаць,
якую зьвязала за люты
прыгожую сукню
для Красачкі,
пунсовую зьнізу,
а ўверсе бялюткую
ў ружачкі
на грудках і рукавох.
І прызнаюся,
мама,
што я больш не фаршу

ў сукенцы тваёй,
той зялёнай
тафтовай.
У стане яна
яшчэ добрая мне,
і кажуць усе,
што вельмі пасуе.
Але ты не крыўдуй —
сама ж перастала
яе надзяваць
яшчэ да зяцёў,
то і мне,
выглядае,
неяк няёмка
ўбірацца перад нявесткамі.
Хацела б аддаць мо каторай,
ды ніводная зь іх
не апранецца ў яе —
паставы ня тыя
дый густы цяпер інакшыя.
Павесіла ў дальнюю шафу.
Дачакаюся мо,
калі ўпадабае выстроньчваць
у прабабулінай сукні
Красачка наша.
Ах, мама,
ты ж сваю праўнучку
й не пасьпела пагушкаць,
ня ўбачыла нат ні разэчку
вочак яе валашковых.
Усенька тваіх.
Не хвалюйся за нас
і чакай на Вялікдзень.
Прывязу пасьвянцонага.

*2.03.2018*

## яны — уваскрэсьлі

Самае лепшае,
што мы можам зрабіць
на Вялікдзень, —
пасьля Ўсяночнай занесьці
бацькам пасьвянцонага.
Прысесьці ля іх
апусьцелых магілаў
у веры,
што яны —
уваскрэсьлі,
і стомлена падрамаць
пад бярэзінкай
на мармуровай пліце,
якую гушкае мама
невідочнай рукой,
а бацька дзесь побач
голасам жаўрука
ціхутка пяе
валачобную песьню.

## эмануіл

Разбудзіў птушак.

Пагнаў воды.

Узварушыў вецер.

Выткаў кветкі.

Усталяваў неба.

Накрэсьліў зоры.

Узьвёў сонца.

## вербы

Вандроўка
ў журлівую дату
вяла нас наўсьцяж
суцэльнага лесу,
скрозь шызае гольле якога
сьвяціліся
коцікі вербаў.
Ну, думаем,
памянуўшы
спачылага ў вечнасьці,
будзем вяртацца дадому,
то збочым
на нейкую сьцежку праежджую
далей ад шашы,
каб папрасіць у вярбінак
іхніх галінак
на заўтрашнюю імшу.
Але аніводнае
ўжо не было
ў глыбінях
паўзмрочнага лесу.
Усе прытуліліся
да гасьцінца,
нібы баючыся,
што іхнія
гожыя кветачкі
мы не заўважым
у прыцемках
ды ня возьмем з сабою
заўтра
ў царкву.

## ясені



Нeяк вельмі яны
нахіліліся сёньня,
гэтыя ясені,
зь перапою,
ці што,
вясновай паводкаю.
Але гнуцца галіны
на поўдзень,
куды
разам зь імі
і мне закарцела.
Толькі вецер гвалтоўна
выкручвае лапы
на поўнач,
не дае
ані каліва спадзеву
на цёплы чвырок
між аліваў і смокваў
у садзе
Таемнай вячэры.

Хлеб і віно —
ну гэта ўсё вядома.
Але ж былі яшчэ
фасоля і бабы,
і фінікі і смоквы.
Ну і галоўнае —
ягня.
Бязь мяса —
пост.
Сем тыдняў.
А безь ягняці —
не Таемная вячэра.



## Вялікдзень-2019

Сэрца сьціскаецца
рэзка да болю
і ўвесь тлен
выштурхоўвае вонкі
па жылах
здранцьвелых,
пакідаючы месца
ў крывавых глыбінях
толькі жывому
Яму.



## Вялікдзень у зьдзічэлым садзе

Ня йдзіце
па маіх сьлядох —
яны вядуць
у невараць,
якую я сама
сабе абрала.
Ня йдзіце збоч —
уваліцеся ў яму,
якую некалі
капалі для мяне.
Ляпей —
паперадзе,
тады я адвінуся
за прысады,
у засені якіх
яшчэ віруе рэха
валачобных песень
маладога дзеда Карла,
і туляцца да ног
канваліі,
пасаджаныя
бабай Касяй.

## дзень мужных мужчын

Сёньня,
дваццаць дзявятага жніўня,
ойча на службе сказаў
памаліцца
за мужных мужчын.
Ну а за тых,
хто сумняваецца ў веры,
няверны ў сям'і
і недарэчны ў грамадзтве,
маліцца ня трэба.
Вось я і думаю,
у гонар каго
мне б сёньня,
у дзень,
калі Ян Хрысьціцель
быў абезгалоўлены
за веру
і вернасьць,
паклоны складаць.
Азіраюся ў пошуку
мужных мужчын.
Чамусьці, ня бачу.

## міраносіцы

Дванаццаць,
каторыя зь Ім
за вячэраю елі й пілі,
наталяючы спраглыя
ў клопатах дзённых
целы мужчын
маладых і здаровых,
на досьвітку ўсе
пахаваюцца ў страху.
Вера і вечнасьць,
яны дзесь у мроях
Таго,
каго заўтра
на крыж аддадуць
непазьбежна.
Уваскрэсьне ці не —
тое пабачыць жывому.
Пасьля.
А пакуль кукарэкае певень —
не дакляруй сваёй веры.

Ці, прынамсі,
адданасьці.
Рацыя.
Слушныя ўчынкі
разумных мужчын.
Жанчыны пазбаўлены
гэткай раскошы.
Імі кіруе
толькі бяздумны ўладар.
Эмоцыя.
Таму і пайшлі да пячоры,
заваленай каменем.
Любілі Яго
і хацелі мірам намасьціць,
каб па звычаі ўсё.
Мо каторая мела й свае
асаблівыя чуцьці.
Красунчык.
Гаворыць — заслухацца.
І ўсё — пра любоў.
Прыйшлі — і няма.
Улюбёнца.
Марна міра прынесьлі.
Але як і куды мог падзецца?
Пытаньні застылі на вуснах
Сузаны і Яны,
Салямэі і Марфы,
Марыі й Марыі.
А ў трэцяй Марыі,
каторая Магдалена,
зазьзяла здагадка,
што ісьціна ўсё,
пра што Ён гаварыў.
Уваскрос.
Вось жа й анёл
тое весьціць.

## Сёмуха

Сказаў перад Ушэсьцем:
вяртайцеся ў Ерусалім
і там чакайце.
Каго і што —
не патлумачыў.
І дзевяць дзён мінула,
і ўсумніліся ізноў,
як і тады
каля пустой пячоры.
І ў гэты момант
зрынулася неба,
і шуганула полымя
даўгімі языкамі.
І аблізнула іх,
і ў жаху
яны штосьці закрычалі,
але ня звыклай мовай,
а кожны нейк па-свойму.
І сьцішыліся.
І адчулі ўсьцешна,
што час чаканьня скончыўся
вось гэткім дарам разнамоўя.



І можна ім цяпер
існці да ўсіх народаў,
і тыя зразумеюць,
пра каго яны гавораць.
Адзінага
ў траістасьці аблічча.
І калі нават двое
толькі вас
недзе субярэцца,
то трэці будзе тут,
нябачны паміж вамі.
Ну а калі хтосьці
застанецца ў адзіноце,
то ўзьнікнуць яшчэ ўдваіх,
амаль што невідочных.
Ніколі ўжо
ад гэтае хвіліны
ніхто,
хто верыць,
не спазнаецца ў самоце.
Тройца-Сёмуха.
Зялёнае наўкольле.
Квяцісты ўсход.
Духмяны захад.
Усьпененыя вечарніцы.
І голас невядомай птахі
наўпрост над цемечкам
маёй збалелай галавы.

## вяртаньне блуднае дачкі

Вяртаньне блуднага сына —
гэткі назоў дня сёньняшняга
па прыпавесьці старасьвецкай.
З блудніцамі прагуляўшы
свой спадчынны скарб,
сын малодшы
вярнуўся да бацькі.

Той рады,
што бачыць
жывога й здаровага.
Наладжвае сьвята.
А старэйшы,
які не грашыў,
і палову сваю спадкаемную
дбайна ўрабляў,
крыўдуе на бацьку:
мне,
які цябе шанаваў,
даглядаў і парадкаваў
справы твае,
ты ніколі ніякае,
нат сымбалічнае
ўцехі ня справіў.
Мне нестае
ў гэтай гісторыі
двух, як найменей,
адцемкаў.
Найперш
пра старшынства братоў.
Збэсьціцца й першынец мог.
Але мудрасьць біблейная
цьвердзіць нам толькі
пра меншага блуднага.
Галоўнае ж у іншым.
Што ў нас бывае,
калі Бог пасылае
толькі дачок?
Як тут тады
выглядае
са спадчынай,
блудам,
вяртаньнем да бацькі
старэйшай — малодшай?

## стракаты свэтар

Кажаце, несуладнае
брунатнае з кармінавым,
а насамперш да яго
ніколі ня мушу
дамешваць
зялёнае
з валашковым.
Пэўна,
гармонія колераў
вымагае
й дапасаванасьці
белага з пунсовым,
кармазынавага з вохрыстым,
селязінавага з палавенькім,
шызага з памаранцовым.
Ведаю, чытала.
Але вось гэтыя
парэшткі
ваўняных клубкоў
пятнаццаць гадоў
чакалі,
каб я рэанімавала
іхні код
апошняга
пасланьня
мамы.
Дачушка,
ніколі не бывае
лішніх нітак,
заўсёды бракуе
густу.

## хатняя сукня

Час прысьпеў
на новую
хатнюю сукню
дзеля восеньскіх халадоў.
Шукаю,
з чаго б змайстрыць,
цёплую і прытульную.
Натыкаюся
на зношаныя
ў мілажальнасьці даўняй
свэтры твае.
Полка да полкі.
Рукаў мо на сьпіну,
а іншы
хай прытарнуецца
да грудзей.
Падоўжым ад стану
яшчэ мо якімі
ня надта зьдзіраўленымі
сьведкамі
пражытых супольна гадоў.
А гэты
хіба што пасуе
ў хвальбоны панізу.
Як і тады,
калі пералівамі
месяц куляўся,
а сонца ўзыходзіла
толькі дзеля таго,
каб пасьпець
пасьцель
пераслаць.

## візарункі зяленіва на шэрадзі тла

Купіла тканіну
на просьціны.
Справа будзённая.
Нікому да тога няма
ані кроплі цікавасьці.
Дый мне —
купіла й купіла.
Але разгарнула набытак —
зялёны развой
на нейкіх малюнках
па шарым фабрычным ільне.
Хай будзе й такое.
І пайшла
да любімага крэсла,
зь якога пагляд
на заходні паўтон
небасхілу.
І не пазнала яго.
Клубамі ўсхадзілася
зарыва захаду,
ды ня нейкім там
памаранчовым штодзённым,
а зелянцовым усхабістым,
зь пярэрвамі чорнага схованм.
То ўжо не заход,
то нейкая прорва кручастая,
перасмыкнёная рэштаю дня,
які ні за якія ўступкі
ня згодны аддаць
наступнаму ўсходу
шэралюбную твань
цяперышчыны.

## хмары вяртаюцца з выраю

Занурыцца ў норку,
захраснуць у сховах
глухіх сутарэньняў,
пераднець,
пераночыць,
перамоўкнуць,
перацярпець
тую вогкую цемрадзь
і стыласьць
бязважкай адлігі,
і цемрадзь марозную,
і гнobлівасьць
шызай піліпаўкі,
каб вось сёньня
зьмярцьвець
перад мроівам
пераўзыходным,
калі ўрэшце
хтось родны
чакае мяне
зь небыцьця.
Хмары
вяртаюцца
з выраю.

## неба скрыпіць

Неба
ад самага раньня
пачынае пакрыху скрыпець —
дзесь непаладкі ў вяршынях,
ці проста старэюць яны.
Той кучаравы красунчык
нічога ня чуе,
і рамонту ня будзе.
Застаецца чакаць,
як увечары
нейкага дня
з папсаваных аблокаў
пасыплюцца
шрубкі іржавыя,
і абрынуцца зоры,
і месяц
занурыцца ў попел
згарэлага сонца.

## СОН

Апрануць
ягоную піжаму,
легчы
на ягоны ложак,
убачыць неба
празь ягонае вакно,
пачуць сьпевы
невядомых птушак
зь ягонага балькону,
заснуць пад грукат
добра знаёмых
ягоных суседзяў,
прачнуцца ў боязі,
што гэта быў
толькі сон.
Сон
у забытым
сьне.

Хацела самоты?
Ну то на,
атрымай!
Апошні сябра
выявіўся
хлусам.



**спраўдзілася**

## кніга

Мне
сонечна і цёпла,
покуль ляжыць
твая
вусьцішная кніга
на маім
струхлелым
стале.

## чытаючы Макса Фрыша

Недзе мо пяць,
не,
часам менш,
тры хвіліны
патрэбна жанчыне,
каб зразумець,
што яна
ўсё ж знайшла
тога адзінага,
з чыім бацькам
ёй заманулася
стацца шчасьлівай.
Прыкладна
дваццаць гадоў,
не,
бывае і больш,
дваццаць два,
здараецца думаць мужчыну,
каб паклікаць да шлюбу
тую сваю
незабыўную
першую лепшую
ў абліччы
ейнай
дачкі.



Сябар,
гасьцюючы ў нас,
папрасіў папраць
ягоныя вандроўныя апраткі,
улучна з майткамі.
Дагрузіла да іх
і мужавыя
зь нядаўняй пілігрымкі.
І пакуль не разьвесіла
ўсё гэта
супольна памытае
сохнуць,
пачувалася так,
быццам
з абодвума ўладарамі
інтымнай бялізны
апынулася ў ложку.

## **пунсовая кветачка**

Зьвялая кветка
найбольш зьмізарнела зьніцае
паміж пругкіх пупышкаў,
якія шчэ толькі зьбіраюцца
пырснуць наўкола
асьляпляльнай красой,
ад якой невідушчымі стануць
і дрэвы, і людзі,
і нават прынц,
які ва ўсе вочы
глядзеў перад тым
на сваю
пунсовую кветачку.

Цяпер я ведаю,
чаму мама
першай пайшла.
Хацела пабачыць,
ці будзе
бязьмежная скруха
на бацькавым сэрцы.
Думаю ўзяць
мамін мэтад
сабе.

**радыкальны мэтад**

Глядзі —
гэта сын пазашлюбны
паэта,
таго вунь.
Праўда, падобны?
І нават паходкаю маладою
выдае
свайго бацьку
старога.
Сказала й падумала:
некалі нехта
замілована так
прашэпча чыёйсьці
даверлівай жонцы:
глядзі —
гэта сын…
І пачуецца ў рэху
каханае
ў іншым сусьвеце,
але ўладнае
й тут
нада мною
імя.

**пытаньне**

Жанчыне
патрэбны муж
альбо
кляштарны мур.
Як бы гэта
спалучыць? —
прамовіла тая,
якая была
так падобная
да найлепшай сяброўкі.
Пытаньне застыла
ў вігілійнай цішы.
Прамаўчу
да апошняе сьвечкі
з мужам
за мурам.

## спатыфілюм

«Ружоўніцай» з выраю
азвалася мама.
Рэха голасу бацькі
гнязьдзечка зьвіло
на галінцы
«Дзікае сьлівы».
Згібела
ў «Завіненым раі»
краса.
І ніхто ўжо ня п’е
са мной
«Каву ў арліным гнязьдзе».
Спатыфілюм засох —
вось і вер
ці ня вер
у сымболіку кветак.



## куцьця

Калі-небудзь
я зразумею тую,
што стаяла на гаўбцы
з келіхам чылійскага шыразу,
а церазь дзьверы з кухні
йшоў дымок
ад спаленай намёртва
каляднае куцьці.

## калядны дождж

Нашыя паралелі

настолькі адхіліліся

ад галоўнага мэрыдыяну,

што яны

хутка

ня вытрымаюць

гэтага шчодрага

каляднага дажджу.

Прынамсі,

адну зь іх

залева змые

ў невараць

яшчэ

да Новага году.

*29.12.2017*

## нішто

Трыццаць першага сьнежня.
Спрабую ўхапіцца
за апошні лісток
адрыўнога календара —
сьняжынкамі лёгкімі
разам ляцець
ня вусьцішна.
У прыдольным эфіры
ён крыху
мяне апярэджвае
і сьцелецца пухам
пад маё
ацяжэлае раптам
нішто.

## люстэрка

Адным нейкім
даўненькім дзяньком
ён вясёла ляцеў
напрасткі
праз адзіны вялікі
агульны пакой.
Зачапіўся за нешта
ў праёме вітальні
і бразнуўся змаху.
І заціх.
Покуль я да таго
вушака даскакала,
то яго ўжо й няма.
Зьнік,
як здань.
Доўга-доўга
аглядвала потым
усе закуткі —
не патрапіў на вочы.
Клікала,
але не азваўся.
Затаіўся пакрыўджана?
Ці пагуляцца мо ў хованкі
захацеў?

Не падаў
ані знаку
на заўтра,
пазаўтра таксама
ў маўчаньні мінула.
Далей — болей
зацягвала ціша
ў сваю павуту,
аж пакуль
не прымусіла думаць,
што ніколі яго
й не было.
Так звычайна
й гавораць цяпер
усе відавочцы
таго ДТЗ,
далікатна змаўкаючы
перада мной,
якая,
вядома —
вар'ятка —
сьцьвярджае,
што недзе ў глыбінях
старога люстэрка
прытуліўся яе
юны
сьмех.

## фітнэс

Вось знаю месьцейка,
наведнікі якога маюць
стрункія паставы
і мілажальны нораў.
Хаджу туды
амаль штодня,
каб і ў маім
здаровым целе
заўжды трымаўся
маліто́ўны дух.

## СЬВЯТЛО

Цемры няма.
Ёсьць адсутнасьць
сьвятла.
Часовая.
Тут.
Сьмерці няма.
Ёсьць нашэсьце
бліскучай празрыстасьці.
Там.
Заўсягды.

## крылы

Успаміны
мокрымі крыламі
валочацца ўсьцяж
сьлізкае сьцежкі,
не даюць
вырвацца ў вырай
усьлед за буслам і,
жоравам наўздагон.
Але як тужліва
курлычуць тыя,
што ўзьняліся
на Птушыны Шлях.
Яны
зайздросьцяць
мне,
прыледзянелай
да свайго
пагорку.

## выпадаю

Выпадаю з нагоды,
з прыгоды, з пагоды.
Выпадаю з раскладу,
з параду, з прынады.
Выпадаю з датклівых,
тактоўных і тонкастанных.
Выпадаю з душэўных,
духоўных і душадайных.
Выпадаю з чужых
і з сваіх
і з аніякіх.
Выпадаю са слова.
Хутка выпаду з мовы.
Ані гуку.
Ні згадкі.
Ціша.
Цемень.
І чуйная зьнічка
ў чорным вакне.

## там, дзе цьвітуць асфадэлі

Такое сухое слова —
ажно трашчыць на вуснах,
якіх у мяне ўжо няма,
і няма чым адчуць
іхнюю райскую слодыч.
Вочы асьлеплі,
і я падзівіцца
на бялюткія
з чырвонымі кропкамі
кветкі
таксама не магу.
Выпетрала цела —
душа ацалела,
ценем блукае
ў палях
невідочнай красы.
Учора сустрэлася
зь цярплівіцай Пэнэлёпай.
Алены ў гэтых пэйзажах
нешта яшчэ не спаткала —
прыўкрасная фанабэрыня,
пэўна,
пасланая ў пекла.
Шкода яе,
дурніцу.

## мапа

Кастрычнік скрышыў
свае гойстрыя зубкі,
і няма чым прагрызьці
дзірачку ў хмарах,
каб праліць скрозь яе
цурочак сьвятла.
Вецер падмог —
падкінуў у воблакі
лісьцік кляновы.
Ягоны абрыс
накрэсьліў на небе
мапу адной
невядомай краіны,
павялічыўшы
дзейны маштаб:
адзін —
да вечнасьці.

## вечны пакутнік

Грэх ня мае
летніх вакацыяў.
Восеньскіх таксама
ў яго няма.
І пра калядныя яму
толькі даводзіцца марыць.
Ня кажучы ўжо
пра самыя важныя,
вясновыя,
велікодныя.
Спраўдзіла ня раз.
На сабе.
Веру Вам,
добры Ойча,
сапраўды,
аніякага ён
адпачынку
ня мае.
Толькі праца і праца.
Вечны пакутнік —
мой грэх.

## ня першы

Аднойчы ўсьвядоміш,
што ў кожнага з нас
ёсьць права
на грэх.
І здрада —
ня самы цяжкі
з пакаяннага пераліку.
На другой прыступцы.
Няўжо зробіш крок
на першую?



## прысады, тэрасы, галерэі

*Памяцi Аляксандра Незабытоўскага*

Цяромхавыя,
бэзавыя,
шыпшыновыя,
ці помніш ты іх,
Аляксандр?
Сажалку,
горку
і барвы кляновыя?
Думаю,
гэта ўсё недзе
ў глыбінях сьвядомасьці
ў тваіх трыццаць гадоў
не праяўлена.
Тым больш,
што акрэсьліў ты
справы дзяржаўныя
лібэралюбныя,
далёкія
ад звычаёвых мітрэнгаў
люду твайго
засьцянковага.
Кніжкі твае
не прачытаны,
думкі твае
не ўсьвядомлены.
Засталіся
прысады цяромхі.
А тэрасаў
няма,
і галерэі
даўно зруйнаваны,
тымі,

каго ашчасьлівіць
хацеў ты.
Пан,
што заходзіць з палацу ў хаціны,
гутарыць зь дзецьмі,
сваім удае.
О, манюка які,
эксплюататар.
Навошта такі нам
вальналюбны ўладар?
І заморскія кветкі твае
не патрэбныя нам.



## тая, што наталяе

*Памяці Наталі Санько*

Ці згодная ты штодня галадаць з маім сынам?
Так.
Ці гатовая ты ў бесхацінцах пражыць з маім сынам?
Так.
Ці здольная ты дзень і ноч працаваць з маім сынам?
Так.
Ці адважная ты на вечную ссылку ў Сыбір з маім сынам?
Так.
То бласлаўляю ваш шлюб,
чароўная, моцная, мудрая, верная
дзева Наталя.
Наталі майго сына
каханьнем і клопатам,
сэрцам, душой
і свабодай.
Наталіла
Наталя.

## шэсьцьдзясят шосты селязін

Селязін узьнікае
зьнікуль.
Проста ўраньні
зальюцца зяленівам
шыбы,
і празь іх
ледзь прасочыцца
ўсходняя медзь,
і зайскрацца
навюткай лістотаю
зрэнкі,
і ўзгарыцца
ў піліпаўку згаслае
сэрца,
і прысьпешыцца ў поўдзень
стамлёны пакутным
перадвялікаднем
крок,
і абвострыцца слых,
і пачуе душа
заблукалую
ў марыве мрояў
невымоўную песьню
малое нямое дзяўчынкі,
а пад вечар акругляцца
поўнямі вочы
і будуць глядзець
на дзівосы
пражытага дня
і дзівіцца
на дзынкасьць
астатняе барвы
зьнікомага
краявіду.

## кава ў арлiным гнязьдзе

Гойстрае каменьне
ўверх кутамі,
наўсторч
зрудзелай посьцілцы
з засохлага бадыльля,
прыкрытага
падвялай муравой
і трохі зацярушанага
цёплым пухам.
Ня мулка,
але і ня ўседзіш доўга.
Ды і расьпешчвацца
не выпадае.
Вучыцца лётаць лёгка,
калі арліца скідвае цябе
вось проста ў прорву
наўздагон
разьвеянай з кубла пасьцелі,
і ты ўжо ведаеш,
што мякка
ў родным доме
больш ня будзе.
Але на разьвітаньне
так хочацца
прыгубіць кубак
з горкай кавай,
прысеўшы
хай сабе
і на гойстрае
каменьне.



**ворлік**

Павыкідваныя з гнязда,
падхопленыя ветрам,
разьляцеліся ва ўсе бакі.
І ні братоў.
Ні сёстраў.
Адно маюць
прасьцяг небакраю,
за якім —
небыцьцё.
І — сёньня.
Мышына зашылася ў норку.
Зьмяюка спаўзла ў нетры рову.
Жаўрук зажурыўся пад каменем
у схованцы
ад сонечнага скваару.
І толькі ён,
выштурхнуты ў неба,
мусіць мець
чыстую дзюбу
і бліскучыя крылы,
каб ведаць,
што будучыня
ў яго
за плячыма.

## слухайце

Вось проста зараз
ён нясецца нада мною,
якісьці велізарны
нетутэйшы птах,
і так вяшчуе сьвету
сваю неверагодную,
нікім дагэтуль
не сказаную захопленасьць
пазнаным краем,
што ўздрыгваю
і спрабую адлучыцца
ад звычаёвых норава
і іншае
мільён гадоў таму
збуцьвелай трасцы.
Вось што ён робіць?
Цешыцца пабачаным
Праслаўляе?
Ці то ўзвышае?
А мо натхнёна
вырашыў абвесьціць
прыход у гэты сьвет
ягоных дзіцянят?
Ва ўсякім разе —
усьміхніцеся!
Узрадуйцеся!
Узьлікуйце!
Вяршыце
слаўную ўрачыстасьц
на гэтым сьвеце.
Што будзе апасьля —
ня ясна.
Жывіце тут!
Птах ведае,



дзеля чаго
ён
побач з вамі
зьвіў гняздо.



## Зьмест



Літаратурна-мастацкае выданне

**Аксак** Валянціна

**Кава ў арліным гняздзе**

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Мастак *Генадзь Мацур*
Рэдактарка *Аляксандра Макавік*
Карэктарка *Вольга Навумовіч*

Падпісана да друку 3.12.2019.
Фармат 84х108 1/32. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 5,25. Ул.-выд. арк. 3,3.
Наклад 200 ас. Заказ 440.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.